Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 13 (67) Нядзеля, 22-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Па глухіх кутках.

Па меры прыбліжэньня сроку, устаноўленага законам для падачы насяленьнем дэкларацыяў да школьных інспэктароў аб жаданьні беларускае школы, нашы беларускія сяляне ўзмацняюць акцыю падаваньня вышэйназваных дэкларацыяў.

Камусьці гэтае саўсім законнае дзеяньне нашага сялянства ў некаторых глухіх кутках Наваградчыны, як відаць, ня вельмі падабаецца, бо даходзяць да нас весткі, што ёсьць яшчэ „ўсемагутныя" сельскія адміністратары п. п. валасныя войты, якія адмаўляюцца бясплатна сьведчыць уласнаручныя подпісы сялян на дэкларацыях аб школах, ня гледзячы на тое, што аб гэтай справе даўно ўжо вышла адпаведнае распараджэньне міністра ўнутраных справаў.

Гэтак, напрыклад, нядаўна адмовіўся бясплатна сьведчыць дэкларацыі намесьнік войта сіняўскае воласьці Адарыч, для жыхароў яго-ж роднай вёскі Дунайчыцы.

Тут можа быць і простае няведаньне войтам распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, а яшчэ хутчэй і проста злая воля, асснованая на варожым паглядзе валаснога начальства на справу беларускае школы.

Калі сялянства, якое хутчэй можа ня ведаць аб распараджэньнях вышэйшае адміністрацыі датычна школьных справаў, усё-ж такі ведае, што пасьведчаньне войтамі подпісаў на дэкларацыях, скіроўваных да школьных інспэктароў на аснове закону 31 ліпня 1924 году, павінна рабіцца бясплатна, дык дзіўна, як аб гэтым ня можа ведаць найбліжэйшы сялянскі начальнік—валасны войт!

Аднак, адмовы сьведчыць бацькоўскія подпісы на дэкларацыях аб роднай школе з боку валасных войтаў здараліся і войты выстаўлялі мотывам гэтых адмоваў тое, што яны яшчэ ня маюць па гэтай справе распараджэньня згары.

Сяляне прапанавалі навет у некаторых глухіх провінцыяльных кутках і аплату за пасьведчаньне сваіх подпісаў абы толькі сваё законнае дамаганьне роднае школы законна аформіць.

Упарты войт пры гэткім выпадку круціў галавою, нешта мэркаваў і нарэшце такі сьведчыў подпісы.

І вось гэткія спакойныя, саўсім законныя і цьвёрдыя дамаганьні сялян зьдзейсьніць тое, што зьяўляецца іх бясспрэчным правам павінны цешыць кожнага беларускага грамадзяніна. Бяз крыку і прывычнай нам скаргі на сваю нацыянальную долю, але цьвёрдым легальным абстойваньнем перад дзяржаўнымі інстытуцыямі нашых грамадзянскіх правоў народ можа ўхіліцца ад свае нацыянальнае крыўды.

Беларусы ў Польскай Рэспубліцы — ня чужынцы, а гэткія самыя грамадзяне, як і ўсе іншыя, а грамадзяніну ня можа быць забаронена зьдзейсьненьне таго, ці іншага свайго права ў парадку, устаноўленым законам.

Наш народ сярмяжны гэта разумее і ў яго заўсёды хопіць патрэбнага халадку ў крыві, арганізованасьці і вытрываласьці ў дзеяньнях пры рэалізацыі сваіх правоў.

Жыхаром глухіх куткоў патрэбна адміністрацыя, якая разумее іхнія патрэбы, ведаючы законнасьць гэтых патрэбаў і не стаўляючы дразьлівых перашкодаў на шляху рэалізацыі законных жаданьняў народу.

Гэткая адміністрацыя зьявілася-б найлепшым правадніком пачуцьця законнасьці і ўсіх рэспубліканскіх прынцыпаў у народныя беларускія масы, быўшыя ў працягу пары сталецьцяў пад ярмом расейскага абсолютызму і пад самаволяй, нядобрай памяці, быўшых расейскіх вураднікаў.

Дзеля шырокага і поўнага аздараўленьня валасных канцыляryяў нашым глухім мясцовасьцям не хапае даўно чаканага дэмакратычнага самаўраду, сябры якога, будучы мясцовымі народнымі выбранцамі ў воласьці, патрапілі-б заўсёды памагчы валасным войтам лепей ведаць тое, што яны павінны рабіць у выпадках выказваньня сялянствам сваіх законных жаданьняў.

## Палітычны агляд.

Амаль што ня ўся другая палова лютага і першая палова сакавіка пэражыты пад уражаньнем нямецкае прапазыцыі саюзу бясьпекі. Раней аб гэтым хадзілі толькі няясныя чуткі і дагадкі, пакуль ангельскі міністар заграанічных справаў Чэмберлен не заявіў каля тыдня назад офіцыяльна ў ніжняй палаце аб нямецкіх прапазыцыях. Выясьнілася, што больш месяца назад нямецкі пасол у Лёндане падаў міністру заграанічных справаў прапазыцыю нямецкага ўраду зрабіць дагавор на гэткіх варунках: Нямеччына гатова падпісаць з Францыяй і Англіяй дагавор, які будзе абясьпечваць заходнія граніцы Нямеччыны з Францыяй. А што датычыцца ўсходніх граніц, г. зн. граніц з Польшчаю і Чэхаславакіяй, дык Нямеччына лічыць іх несправядлівымі для сябе, будзе імкнуцца да іхняй перамены, але толькі ня шляхам гвалту, а пры помачы Лігі Народаў на падставе 19 параграфу Статуту Лігі Народаў, які кажа, што Ліга Народаў мае права пераняняць тыя ці іншыя граніцы, калі гэтага будуць дамагацца ўсе яе сябры. Прадставіўшы ў Лёндане гэту прапазыцыю нямецкі ўрад прасіў захаваць яе ў тайне і пачаць па гэтаму пытаньню спрэчкі.

Чэмбэрлен адказаў, што прынцыпова ён згаджаецца з гэтай прапазыцыяй, але бяз згоды сваіх саюзьнікаў, а ў першую чаргу Францыі, ня можа пачаць з Нямеччынай перагавораў і ніякага адказу даць ёй ня можа. Тады нямецкі ўрад адказаў, што зробіць гэткую-жа прапазыцыю ў Парыжы, Рыме і Брусэлі. Гэтак ён і зрабіў.

Як толькі ў Парыжы і Рыме адтрымалі нямецкія прапазыцыі, пачалася гутарка на гэту тэму між Парыжам, Лёнданам і Бэрлінам. Аб гэтых прапазыцыях спачатку праніклі весткі ў францускую прэсу; да іх шмат хто аднёсься вельмі недаверчыва, пакуль ня спыніў усялякія недагаворкі Чэмбэрлен сваей заявай, а пасьля ня выступіў з офіцыяльнай заявай і нямецкі ўрад. Аказалася, што ўсё тое, што Чэмбэрлен сказаў у свайй заяве і аб чым крыху заяўляла прэса, было праўдай. Нямеччына абяцае непарушнасьць заходняй граніцы Францыі пад варункам, калі ёй будзе дазволена зьмяніць сваю ўсходнюю граніцу з Польшчай, якую яна, як нядаўна заявіў і нямецкі міністар заграанічных справаў Штрэзэман, ніколі ня прызнае справядлівай і не адмовіцца ад сваіх імкненьняў яе паправіць. Але абяцае, што да гэтага будзе імкнуцца шляхам згоды. Ніхто, ведама, ані ў Парыжы, ані ў Вэрсалі ня верыў гэтым абяцанкам згоды Нямеччыны. Але ў Лёндане адносяцца да гэтага зусім іначай. І на гэтым грунце пачаліся шырокія спрэчкі ў прэсе і ў парлямэнтах зацікаўленых дзяржаваў, дайшоўшыя найбольшае натугі на паседжаньні Рады Лігі Народаў і няскончаныя дагэтуль.

Францыя, як ведама, праз увесь час, пачынаючы ад 1919 г. імкнулася да падпісаньня абароннага дагавору з Англіяй і Бэльгіяй ў межах вэрсальскага трактату, г. зн. каб усе граніцы эўропэйскіх дзяржаваў, устаноўленыя вэрсальскім трактатам, заставаліся бяз зьмены. Але ўсе гэтыя імкненьні Францыі разьбіваліся аб цьвёрдую пазыцыю Англіі, якая мае на гэту справу іншы пагляд. Урад Л. Джорджа і Бальдуіна быў гатовы падпісаць абаронны саюз з Францыяй і Бэльгіяй, але не абязуючыся захоўваць status quo (істнуючае палажэньне) на ўсходзе Эўропы. У часы ўрадаваньня Макдональда зьявілася надзея разрашыць пытаньне аб непарушнасьці граніцаў пры помачы г. зв. жэнэўскага арбітражнага пратаколу, міжнароднага саюзу, ў які былі павінны дабравольна ўвайсьці ўсе дзяржавы, якіх абавязкам было-б бараніць істнуючае палажэньне, калі-б хто з яго сяброў захацеў пачаць вайну. Проект гэтага дагавору, як ведама, быў запрапанованы Макдональдам на мінулым агульным сходзе Лігі Народаў і спаткаўся з вельмі энэргічным падтрыманьнем Францыі і ўсіх іншых дзяржаваў, трымаўшыхся крэпка Вэрсальскага трактату. Няма ведама, які лёс быў-бы Жэнэўскага пратаколу, калі-б не праваліўся ўрад Макдональда. Францыя зараз-жа пасьля таго, як быў прыняты пратакол у Жэнэве падпісала яго, а ангельскі кабінэт Макдональда праз увесь час адмаўляўся прыняць гэты пратакол, спачатку тлумачачы гэта тым, што

